Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 6000 м. п.

# ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 70 000 м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 10000 мк., сярод тэксту 9000 м. і на 4 стр. 8000 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 16. Вільня, Пятніца, 5-га кастрычніка 1923 г. Год I.

## Патрэба аб'яднаньня „меншасьцяў".

Патрэба—вялікі вучыцель,—кажа народная мудрасьць.

Быў мамэнт, калі выбарны закон Польшчы пагражаў так званым „нацыянальным меншасьцям" блізу поўным недапушчэньнем іх у польскі сойм і сэнат. Выбарны закон даваў вялізарныя прывілеі вялікім партыям—коштам малых, а як партыі „меншасьцяў", кожная асобна, былі зусім малыя, раўнуючы да польскіх партыяў, дык ясна была небясьпека для іх ад выбарнага закону.

Аднак, пачуцьцё супольнае небясьпекі навучыла „меншасьці" і іх палітычныя партыі, што рабіць, каб абараніць сваё права мець адпавядаючае іх лічэбнасьці выбарнае прадстаўніцтва ў варшаўскім сойме і сэнаце. „Меншасьці"—кожная ў сябе—згуртавалі ўсе свае партыі і пасьля стварылі вялізарны выбарны „блёк нацыянальных меншасьцяў", дзякуючы якому пагроза цяжкой крыўды „меншасьцям" ня зьдзейсьнілася.

Бадай, сярод адных толькі жыдоў ня ўсе партыі далучыліся да гэнага „блёку". Затое-ж мы бачылі сумныя вынікі гэтага ў такім вялізарным цэнтры, як Вільня, дзе жыды праз гэты „разнабой" утрацілі зусім пэўнае дэпутацкае месца....

„Блёк" сваю ролю адыграў ня толькі ў тым значэньні, што забясьпечыў „меншасьцям" вялікшую лічбу мандатаў: ён паказаў усяму сьвету, што Польшча ня можа лічыцца „нацыянальна-польскай дзяржавай", бо траціну яе насяленьня прадстаўляюць гэныя самыя „меншасьці" (на сваей тэрыторыі яны—„большасьці"!), якія ніколі ня „зробяцца" палякамі.

Але такі саюз самых разнародных элемэнтаў і партыяў, які быў магчымы ў часе выбараў дзеля выпаўненьня *чыста тэхнічнае задачы*, аказаўся немагчымым, калі выбраныя прадстаўнікі „меншасьцяў" сабраліся разам у Сойме. Усе яны пайшлі тутака рознымі дарогамі, залежна ад таго, якая была іх партыйная прыналежнасьць і сацыяльная прыналежнасьць выбраўшых іх народных масаў. Гэтак найбольш блізкімі сабе аказаліся беларускі і украінскі пасольскія клюбы, бо-ж і беларусы і украінцы—гэта ў большасьці сваей працоўныя сялянскія масы. За тое зусім разыйшліся іх дарогі, прыкладам, з жыдоўскімі паслямі, сярод якіх пераважаюць чыста буржуазныя партыі, часта-густа „фліртаваўшыя" з блізкімі да іх па ідэалёгіі польскімі правымі групамі....

А пад той час, як „меншасьці" ў Сойме ўсё больш і больш разыходзіліся, — уціск іх у краю крапчэў і крапчэў. Адбывалася гэта адначасна з узмацаваньнем польскае нацыянальнае „правіцы", якая ўрэшце і ўзяла ў свае рукі дзяржаўную ўладу. І з таго мамэнту прасьледаваньне „меншасьцяў" даходзіць нябывалае датуль меры і адбываецца зусім адкрыта, не прыкрываючыся нават софістычнымі тлумачэньнямі канстытуцыі і міжнародных забавязаньняў Польшчы аб забясьпечаньні правоў „нацыянальных меншасьцяў".

„Вінт" таго прэсу, які што-раз больш нас усіх прыціскае, закручываецца мацней і мацней. Ужо немагчыма робіцца дыхаць. Беларускія народныя школы на вёсках блізу ўсюды пазачынены. Апошнімі днямі выявілася, што з дзесяцёх беларускіх школьных камплектаў, якія летась былі ў Вільні, на гэты школьны год асталіся чыннымі толькі дзьве школы. З істнаваўшых летась пяцёх беларускіх гімназіяў адна пазбаўлена канцэсіі, а рэшта перасьледуецца рознымі спосабамі. „Обыватэльства" беларусу атрымаць—гэта справа блізу безнадзейная. Цэлыя вёскі беларускія аказваюцца „чужаземнымі..." А палітычныя працэсы? А канфіскацыі беларускіх газэт, сыстэматычна робленыя адміністрацыяй і... зьніманыя судом? А ўсе тыя зьдзекі агентаў адміністрацыі па вёсках, аб якіх піша ўжо нават „Gazeta Warszawska"? І вось жывыя беларускія сілы пачынаюць уцякаць з родных вёсак—пераважна ў Усходнюю Беларусь, бо тутака ўжо дыхаць нельга!

Падобныя жальбы чуем мы і ад другіх „меншасьцяў". І ўсё больш пачынаюць усе гэтыя „меншасьці" адчуваць супольнасьць свайго гора, а разам з тым пачынаюць аглядацца адна на адну і *ізноў падумываць аб аб'яднаньні дзеля супольнае абароны.*

Гэта—зусім натуральна. Гэта — закон жыцьця. Толькі цяпер такое аб'яднаньне павінна апірацца ня толькі на грунце мінаючай супольнасьці інтарэсаў уцісканых нацыянальнасьцяў, але і *на больш моцным, больш трывалым, больш яднаючым грунце супольнасьці сацыяльных інтарэсаў* блізкіх сабе ўзаемна па ідэалёгіі партыйных групіровак і кірункаў.

**Лаўрыновіч.**

## Пачалося.

У газэтах зьявіліся кароткія, яшчэ пакуль што ня спраўджаныя весткі, што б. наступнік трону князь Рупрэхт абвешчаны каралём Баварыі. Такім спосабам чорная рэакцыя адкрыта выступіла па прыкладу Італіі, Баўгарыі і Гішпаніі на шлях зламаньня канстытуцыі, на шлях нічым не маскаванай барацьбы з работніцкім рухам, у чым ужо з мамэнту назначэньня манархіста Кара дыктатарам ня магло быць ніякіх сумлеваньняў. Адначасна адбываюцца спробы фашыстаўскіх пераваротаў у другіх мясцох Нямеччыны. Рэвалюцыйныя работніцкія элемэнты распачынаюць контракцыю. Адным словам змаганьне дзьвюх сілаў распачалося.

Гэтае змаганьне йшло даўно, ня спыняючыся ні на мінуту, прымаючы толькі больш ці менш вострыя формы і рана ці позна павінна было прывесьці да аканчальнай перамогі тэй ці іншай стараны: да дыктатуры пралетарыяту ці дыктатуры буржуазіі. Паражэньне лібэральнай буржуазіі і падтрымоўваючае яе сацыял-угоды ў Рурскім пытаньні толькі прысьпешыла гэты мамэнт.

Аснаўной прычынай разьвіваючыхся цяпер выпадкаў у Нямеччыне бязумоўна трэба лічыць тую палітычную і эканамічную сітуацыю, якая вытварылася ў Эўропе пасьля Вэрсальскага міру, дзякуючы палітыцы дзяржаў-пераможцаў, а асабліва Францыі, палітыкі распаду, разлажэньня і ўціску, якая шпарка рэвалюцыянізуе работніцкія масы. Гаспадарка Нямеччыны, запёртай з усіх бакоў, аграбленай, пазбаўленай вугальля, прымушанай плаціць і плаціць, хуткім тэмпам коціцца ўніз. Прамысловасьць, гандаль, фінансы — ўсё паказвае на глыбокі заняпад. Дзеля гэтага істнуе страшэннае абастрэньне клясавых антаганізмаў. Палажэньне працоўных масаў усё пагаршаецца. Работнік, селянін, служачы, інтэлігенцыя, дробная буржуазія сьціснуты ў абцугох страшэннай нэндзы. Вялікая буржуазія аказалася палітычным банкротам. У змаганьні з францускай акупацыяй яна прымушана была прызнаць сябе пераможанай і спыніць пасыўнае праціўленьне ў Руры.

Вось гэтае банкруцтва лібэральнай буржуазіі, падтрымліваемай сацыял-угодай, яе няздольнасьць справіцца з грозным палажэньнем, у якім апынулася Нямеччына, зьяўляецца беспасрэднай прычынай актыўнага выступленьня чорнай рэакцыі—у форме манархізму і фашызму. У Нямеччыне істнуюць фашысты двух гатункаў. Адна група гэтых арганізацыяў імкнецца да аб'яднаньня ўсей Нямеччыны пад кіраўніцтвам фашыстаўскай дыктатуры, да якіх трэба залічыць „нямецкую народную партыю свабоды", якая мае ўплывы ў Паўночнай Нямеччыне; на чале гэтай групы стаяць Волле, Хэнінг і Грэфэ, і „нацыянал-сацыялістычная партыя", якая найбольш выяўляе дзейнасьць на паўдні, галоўнымі правадырамі яе зьяўляюцца Гітлер і Эссэр, а ваенным кіраўніком Людэндорф. Сярод гэтых т. зв. вяліка-нямецкіх фашыстаўскіх арганізацыяў ідзе змаганьне абшарніцкіх элемэнтаў з дробна-буржуазнымі, стара-консэрватыўных, як Макэнзен, з элемэнтамі, прадстаўляючымі бюракратыю, ваеншчыну, менш зьвязанымі з абшарніцтвам; выразьнікам гэтага напрамку зьяўляецца ген. Людэндорф.

Апрача гэтых вяліка—нямецкіх фашыстаўскіх арганізацыяў істнуюць арганізацыі сэпаратычныя. Галоўны іх цэнтр — Баварыя. Яны апіраюцца на баварскага кулака-селяніна і імкнуцца да стварэньня незалежнай Баварыі; частка лятуціць аб аб'яднаньні з Аўстрыяй для ўтварэньня каталіцкай манархіі; другая частка — зьяўляецца праціўнікам разьдзелу Нямеччыны, спадзяецца, што ёй удасца атрымаць перавагу над Прусіяй і стаць на чале фэдэратыўнай Нямеччыны. Аднэю з прычын сэпаратычных імкненьняў у Баварыі зьяўляецца страх перад рэвалюцыйным рухам, які шмат мацнейшы у іншых частках Нямеччыны, чым у Баварыі.

Спыненьне пасыўнага праціўленьня ўрадам Штрэзэмана паслужыло сыгналам для выступленьня фашыстаў у Баварыі. Яны стараюцца выкарыстаць нездавольства шырокіх слаёў нямецкага народу і скіраваць яго на шлях патрыятызму проціў акупантаў. Назначэньне дыктатарам Кара было першым крокам на гэтым шляху, за ім пасьледавала абвяшчэньне манархіі. Фашысты пасьпяшылі выступіць: яны выступілі не ў імя змаганьня з Францыяй, бо проціў гэтай апошняй яны не пасьмеюць і пікнуць. Яны пасьпяшылі дзеля таго, што у іх мала часу, як сказаў адзін з іх правадыроў. Мала часу дзеля таго, што усьведамленьне шырокіх слаёў шпарка расьце, ідзе працэс расслаеньня дробнай буржуазіі, падаюць уплывы сацыял-угоды, растуць сілы рэвалюцыйнага пралетарыяту.

Але, захваціўшы ўладу ў свае рукі, баварскія фашысты ня спыняць гэтага працэсу, а наадварот ускораць яго. Так было ў Баўгарыі, дзе фашыстаўскі пераварот выклікаў паўстаньне работнікаў і сялян. Выпадкі бліжэйшых дзён пакажуць на чыёй старане перавага. Як-бы ні было, перад нямецкім пралетарыятам ляжыць важнае і цяжкае заданьне вытрымаць наступ рэакцыйных сілаў ня толькі сваей радзімай буржуазіі, але і ўсяго сьвету, для якіх умацаваньне капіталістычных пазыцыяў у Нямеччыне зьяўляецца пытаньнем жыцьця і сьмерці. Міжнародны пралетарыят павінен зорка сьлядзіць за ходам гэтага змаганьня, якое мае вялізарнае сусьветнае значэньне, і быць гатовым прысьці яму з дапамогай ў патрэбны мамэнт.

**Язьвіч.**

